БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

15 лістапада 1994 г.
Аўторак
№ 122(13839)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдавецца з 1921 года

**У НУМАРЫ:**






Малюнак В. КЛІМЕНКІ.



Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

## Кур'ер "ЧЗ"

### НАС ЧАКАЕ "РЫСАВЫ РАЙ"

*Беларуска–кітайскія адносіны напярэдадні маючага адбыцца візіту прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі ў Кітай, здаецца, прыкметна актывізуюцца.*

Як паведамілі ў пасольстве КНР у Мінску, да канца года ў Кітаі пабываюць прадстаўнікі парламенцкіх камісій па дзяржаўнаму будаўніцтву, міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях, а таксама дэлегацыя рэспубліканскай пракуратуры. У сваю чаргу ў Беларусь прыедзе дэлегацыя галоўнага ўпраўлення падаткаў Кітая. Яна правядзе перагаворы з адпаведнымі ведамствамі Беларусі. У ходзе гэтага візіту будзе ісці падрыхтоўка да падпісання сумеснага беларуска-кітайскага пагаднення аб абароне інвестыцый.

### ПАСТАНОВА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ

*У мэтах матэрыяльнай падтрымкі асобных катэгорый пенсіянераў Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь павялічыў з 1 снежня 1994 года размер штомесячнай грашовай кампенсацыі.*

Яна ўстаноўлена пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10 жніўня 1994 года № 3 "Аб мерах па аказанню фінансавай падтрымкі асобным катэгорыям грамадзян" для непрацуючых пенсіянераў, а таксама пенсіянераў, якія працуюць у калгасах, саўгасах і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемствах, з 8500 да 20000 рублёў.

**БЕЛІНФАРМ.**

### ВАЖКІ ПАДАРУНАК

*атрымалі гаспадаркі Гомельскай і Мінскай абласцей ад Асіповіцкай дывізіі.*

Вайскоўцы перадалі хлебаробам 70 аўтамабіляў, якія будуць выкарыстоўвацца на сельскагаспадарчых работах.

**Іван СЦЯПУРА.**

### УСІМ БЫ ТАКІХ ПАРТНЁРАЎ

*Добрыя сувязі ўсталяваліся паміж Аршанскім механіка–тэхналагічным тэхнікумам і Ашчадным банкам Беларусі.*

Навучальная ўстанова рыхтуе кадры для банкаў, а банкіры аказваюць дапамогу ў арганізацыі навучальнага працэсу, працаўладкоўваюць выпускнікоў.

Асабліва адчувальную дапамогу банк аказаў тэхнікуму сёлета: выдзеліў 500 мільёнаў рублёў для рамонту і набыцця вылічальнай тэхнікі.

**Ісак КОГАН.**

### АНШЛАГ ДЛЯ ХОРУ

*У Віцебскім акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа прайшоў канцэрт аб'яднанага беларуска–германскага хору.*

Госці з горада Вецлара разам з нашымі маладымі харыстамі выканалі літургію святога Іаана Златавуста. Канцэрт прайшоў пры аншлагу.

**Уладзімір МІХНО.**

### ВЫРАТАВАНАЯ ПРЫГАЖОСЦЬ

*З асабістай калекцыі арганізаваў у гарадской бібліятэцы імя Валянціна Таўлая выставу "Скарбы Дрэздэнскай галерэі" жыхар Баранавіч А.Берзан.*

Гэта рэпрадукцыі карцін, якія выратавалі ў 1945 годзе савецкія войскі.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ.**

### БЕЛАРУШЧЫНА Ў КРЫМЕ

*Больш за 24 тысячы чалавек наведалі фотавыстаўку "Беларусь", якая адкрылася ў этнаграфічным музеі Крыма. Наведвальнікі змаглі пазнаёміцца тут з новым раздзелам пра быт і традыцыі народаў Беларусі. Актыўны ўдзел у яго арганізацыі прынялі члены Беларускага культурна–асветнага таварыства Крыма, якое дзейнічае больш за тры гады.*

Сваёй мэтай таварыства ставіць культурна-асветную работу, прапаганду культуры, быту, літаратуры і творчасці народа Беларусі. Дэлегацыя таварыства прымала актыўны ўдзел у фестывалі беларускай культуры ў Ялце, актывісты правялі з удзелам вучоных шэраг цікавых свят, прысвечаных творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, а таксама па кнізе "Вянок Васільковы" беларускага паэта М.Казакова, які жыве ў Крыме.

Рэспубліканскім фондам культуры ўстаноўлена прэмія імя М.Багдановіча. Яе саіскальнікам за прапаганду народнай творчасці Беларусі стаў беларускі фальклорны ансамбль "Світанак" з сяла Мар'янаўка Краснагвардзейскага раёна.

### ПАКЕТ АД САДЫСТА

*Брастаўчанін, які знайшоў на вуліцы пакет, ледзь не звар'яцеў.*

У коўдры ляжаў расчлянены труп жанчыны. Невядомы пакуль вылюдак-садыст адрэзаў ахвяры галаву, кісці рук і стопы... Распораты жывот, вынуты ўнутраныя органы...

**БЕЛІНФАРМ.**

### ЭХ, СУСЕДЗІ...

*Дзесяць дзён без перапынку працаваў тэлевізар і гарэў газ у адной з маладзечанскіх кватэр. Гаспадыня раптоўна памерла, а суседзі не пацікавіліся яе лёсам.*

Міліцыянерам, якія ў рэшце рэшт узламалі дзверы, жыхары змаглі паведаміць толькі, што былую суседку звалі Ганнай.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

### СПОРТ



*У Мінскім Палацы спорту завяршыўся паўфінал розыгрышу Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў па хакею з шайбай.*

У спаборніцтвах разам з камандай "Цівалі" (Мінск) прынялі ўдзел хакеісты са Славакіі, Вялікабрытаніі, Аўстрыі. Мінскія хакеісты прайшлі гэты турнір без паражэнняў і ў апошнім матчы з камандай "Дукла" са Славакіі сыгралі ўнічыю (1:1), стаўшы пераможцамі і заваяваўшы права выступіць у фінале, які адбудзецца ў снежні ў Хельсінкі.

**Фота Генадзя СЯМЕНАВА.**

### Курсы валют на 14 лістапада:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 6784 | 6990 | 4409 | 4578 |
| "Прыор" | 6850 | 7000 | 4440 | 4580 |
| "Алімп" | 6860 | 7040 | 4455 | 4611тт |

ЭКАНОМІКА

# У інтарэсах рынку

Ад гэтага нікуды не падзенешся, бо наша грамадства, выхаванае ў духу сацыялістычных каштоўнасцей, яшчэ доўга будзе з непрыязнасцю адносіцца да прыватнай уласнасці, да прадпрымальніцкай і камерцыйнай дзейнасці, да таго, што мы – суверэнная дзяржава, а не састаўная частка Савецкага Саюза.

То з адной, то з другой палітычнай групоўкі так званага левага крыла, ды і да апошняга часу ад некаторых дэпутатаў Вярхоўнага Савета, раздаецца пытанне: трэба, маўляў, канчаткова высветліць, якое грамадства – сацыялістычнае або капіталістычнае – мы будуем? Да многіх па-ранейшаму не даходзіць, што такое дэмакратычная сацыяльная дзяржава, арыентаваная на рыначную эканоміку. І калі такога не разумеюць дэпутаты, што галасавалі за новую Канстытуцыю, прымалі законы аб прыватызацыі і прыватнай уласнасці, то гэта, па-мойму, самы казусны і самы недарэчны парадокс. Адно суцяшэнне, што век падобных нардэпаў разам з адпаведным і непрадказальным парламентам будзе кароткім.

Тым не менш, нягледзячы, што дзяржава ўзяла курс на развіццё рыначных адносін, гэта неакрэсленае пытанне – што мы будуем? – выклікала ў вялікай частцы нашага насельніцтва негатыўныя адносіны да тых, хто сапраўды ўспрыняў і ўзяў новы курс. Маю на ўвазе дзелавыя колы Беларусі, тых жа прадпрымальнікаў, камерсантаў, бізнесменаў, якіх абывацель, і часта абывацель палітычны, называе спекулянтамі і ніяк інакш.

Няма чаго граху таіць. Сярод вышэй названай браціі нямала і такіх. Бо ў звычайнага грамадзяніна аб прадпрымальніцтве вельмі павярхоўнае і чыста вонкавае ўражанне, зарыентаванае на кіёскі з амерыканскімі цыгарэтамі ды "снікерсамі". Пра сапраўдных прадпрымальнікаў-вытворцаў, якія займаюцца выпускам прадукцыі, змаглі добра паставіць сваю справу, звычайна мала хто ведае.

Па прыклады хадзіць далёка не трэба. Усіх гаспадынь прываблівае сваёй зручнасцю пральная машына "Малютка", якая добра вядома не толькі ў Віцебскай вобласці ці Беларусі. Але мала хто здагадваецца, што яе выпускам займаецца не дзяржаўнае прадпрыемства, а прадпрымальніцкае акцыянернае таварыства "Элцік". Выпускае яно і выдатныя кухонныя гарнітуры, мае ўласную хлебапякарню па выпечцы французскіх батонаў пад адным дахам з магазінам "Гарачы хлеб". На жаль, адзіным у горадзе магазіне, дзе можна набыць такую якасную і адносна танную, у параўнанні з чэрствымі ячменнымі батонамі, прадукцыю.

Можна яшчэ многае залічваць на рахунак "Элціка", але той факт, што за апошні месяц ён выпусціў тавараў народнага спажывання больш чым на 600 мільёнаў новых дэнамінацыйных рублёў, гаворыць сам за сябе.

"Элцік", зразумела, не адзіная прадпрымальніцкая структура ў вобласці, што займаецца вытворчасцю. Такіх прадпрыемстваў набярэцца некалькі дзесяткаў, і ўсе яны скіраваны на забеспячэнне рынку патрэбнымі і якаснымі таварамі. Але ва ўмовах агульнага заняпаду ўдушэння падаткамі прадпрымальніцкім структурам усе цяжэй і цяжэй развівацца. Апошнім часам дзелавых людзей горада і вобласці ўсё больш хвалюе няпэўнае стаўленне да іх дзейнасці і першага прэзідэнта Беларусі.

Калі ён сапраўды падаткаабкладаннем ставіць заслону спекуляцыйным гандлёва-закупачным прадпрыемствам, то гэта добра. Як добра і тое, што ён збіраецца падтрымаць прыватнікаў-вытворцаў. У гэтым "добра" якраз і ўзнікаюць многія сумненні. Прадпрымальнікі занепакоены: як можна выпускаць прадукцыю без закупкі сыравіны? Той жа "Элцік" вядзе будаўніцтва аб'ектаў. Карысна і добра. А вось з продажам яму як недзяржаўнай структуры цэменту складана. Бо гэта ўжо як быццам гандлёва-закупачная дзейнасць з нейкай вышэйшай шкалой падаткаў.

Гэтыя і многія іншага плана пытанні, што тармозяць развіццё прадпрымальніцкай справы, падштурхнула дзелавых людзей Віцебска да стварэння Асацыяцыі недзяржаўных прадпрыемстваў прадпрымальнікаў. Мэта аб'яднання – наладзіць цесныя кантакты паміж недзяржаўнымі структурамі горада і вобласці для вырашэння агульных задач па развіццю вытворчасці, па паляпшэнню інфармацыйнай планавай прасторы. Адразу ж быў створаны кіруючы орган – савет, які ўзначаліў генеральны дырэктар акцыянернага таварыства "Элцік" Барыс Ісакавіч Фрэйдман ды яшчэ 6 чалавек. Членам новаўтворанага савета стала і дырэктар акцыянернай страхавой кампаніі "Ніва" Алена Зуфараўна Гнацюк.

– Нам патрэбны нармальныя заканатворцы, якія б адстойвалі інтарэсы рыначнай эканомікі, інтарэсы тых, хто працуе на яе ўмацаванне, – сказала на апошнім пасяджэнні савета Асацыяцыі прадпрымальнікаў вобласці дырэктар страхавой кампаніі "Ніва" А.Гнацюк. – Таму ў выбары новага дэмакратычнага парламента мы зацікаўлены яшчэ больш, чым у выбары прэзідэнта. У нас ёсць дастойныя людзі, якія маглі б быць прадстаўлены ў Вярхоўным Савеце, але многія баяцца пакінуць сваю справу. Таму мы вырашылі звярнуцца да блоку дэмакратычных партый Віцебшчыны, як найбольш блізкіх нам па сваіх праграмных эканамічных устаноўках.

Можа няма нагоды гаварыць яшчэ раз, але дэмакратычны блок на Віцебшчыне той жа, што і ва ўсёй рэспубліцы. Таму і зразумела, што на апошнім савеце Асацыяцыі прадпрымальнікаў прысутнічалі кіраўнікі гарадскіх арганізацый ад БНФ, БСДГ, беларускай партыі "Згода", АДПБ, беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучанасці.

Пытанне і для прадпрымальнікаў, і для палітыкаў было адзіным: падрыхтоўка да будучых выбараў праз вылучэнне найбольш прымальных кандыдатур, менавіта тых, хто ў аднолькавай ступені будзе адстойваць незалежнасць Беларусі, яе культуру і мову, эканамічнае развіццё пры нармальных рыначных стасунках, пры спрыяльным актыўным развіцці малога і сярэдняга бізнесу. І, зразумела, сацыяльнай абароне насельніцтва.

Палітыкі і прадпрымальнікі Віцебшчыны вырашылі падтрымліваць адзін аднаго, узаемаўзгадняць і каардынаваць свае дзеянні, выпрацоўваць агульную канцэпцыю ў вылучэнні і падрыхтоўцы будучых кандыдатаў для будучага парламента.

**Яўгенія ВІЦЬБА.**

ПАДПІСКА-95

### ПАЛІТЫКА Ў СТЫЛІ "РОК"

Працягваецца падпіска на "Чырвоную змену" на першую палову 1995 года. Апошнім часам тыраж нашай газеты стабільна павялічваецца. Хутчэй за ўсё, таму паспрыялі і публікацыі, падрыхтаваныя да друку аддзелам палітыкі. Не сакрэт, беларускае грамадства палітызавалася. Мы не сталі выключэннем — падобныя працэсы адбываюцца ва ўсіх рэспубліках Садружнасці. Людзі добра ўсведамляюць, што варункі жыцця ў вызначальнай ступені залежаць ад таго, каго імклівыя падзеі ўзнеслі на палітычны Алімп. Завяршылася саюзная перабудова, пасля яе засталося больш пытанняў, чым адказаў на выклік гісторыі. Чым стала для нас Белавежжа, якія шляхі можна лічыць аптымальнымі пасля разбурэння імперыі? На шэраг пытанняў, звязаных з гэтай праблематыкай, мы шукалі адказы на старонках выдання. Мабыць, знаходзілі. Сапраўды, палітыка ў стылі "рок" (так называўся адзін з артыкулаў, прысвечаных першым крокам А.Лукашэнкі у якасці прэзідэнта) — адметная з'ява рэчаіснасці. Мы імкнуліся і імкнёмся адлюстроўваць і аналізаваць іх у адпаведнай стылістыцы. Былі заўважаны чытачамі і іншыя праблемна-аналітычныя артыкулы. Асаблівая цікавасць да палітыкі ўвогуле і, у прыватнасці, да палітыкі ў асобах узрасла пад час выбарчай прэзідэнцкай кампаніі. Безумоўна, не паменшылася яна і сёння. Адзначым, што напал выбарчых страсцей не паўплываў на прынцыповую пазіцыю газеты: асвятляць палітычныя працэсы аб'ектыўна, на падставе канкрэтыкі і логікі развіцця сітуацыі. Перагарнуўшы нумары "ЧЗ" за летнія і восеньскія месяцы, у прэваліраванні менавіта такога падыходу няцяжка пераканацца. Яшчэ ў сярэдзіне шляху да прэзідэнцтва мы, па сутнасці, прадказвалі зыход барацьбы. У адрозненне ад шэрагу ангажыраваных выданняў "ЧЗ" не прыйшлося прыстасоўвацца да "новай улады", не прыйшлося "чырванець". І надалей мы будзем кіравацца толькі прынцыпамі аб'ектывізму. Пры падрыхтоўцы матэрыялаў да друку, як і раней, мы імкнёмся пазбягаць "цэнзурнага" ўмяшання, ствараючы ў газеце шматполюсную палітру думак і меркаванняў. Запрашаем да супрацоўніцтва палітыкаў і парламентарыяў, палітолагаў і навукоўцаў. Знойдзецца месца і для допісаў чытачоў.

**Якаў ЯСЭПКІН, рэдактар аддзела палітыкі.**

**Нагадаем: кошт падпіскі на "Чырвоную змену" на паўгоддзе – 6 тысяч рублёў. Індэкс 63129.**

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63129** (індэкс выдання)

**ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА** Колькасць камплектаў

на 199 . год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **63129** (індэкс выдання)

**ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА**

| Кошт | падпіскі | ______рублёў. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______рублёў. | | |

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Уорлднэт" — "Суперчэннэл" — "Еўраньюс" — "TV-5"




*Дзяжурныя па выпуску перакладчык Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

### ГЕРМАНІЯ БЕЗ "ЧОРНЫХ ПЛЯМ"

*У Германіі працягваюцца святкаванні, прысвечаныя 5–годдзю падзення Берлінскай сцяны.*

Немцы ўшанавалі таксама памяць загінуўшых яўрэяў. 10 лістапада 1938 года Гітлер выдаў указ аб яўрэйскіх арыштах. Да мемарыяльнага месца ўскладзены вянкі і кветкі. У выступленнях немцаў было падкрэслена, што Германія не дапусціць больш такіх "чорных плям" у сваёй гісторыі.

### ФРАНЦЫЯ СУПРАЦЬ УМЯШАННЯ

*Прэм'ер–міністр Францыі сустрэўся з генеральным сакратаром НАТО.*

Цэнтральным пытаннем сустрэчы стала абмеркаванне абстаноўкі ў Босніі. Францыя асуджае палітыку ЗША ў адносінах да былой Югаславіі і выступае супраць умяшання амерыканскіх войск у грамадзянскую вайну.

### ДАГАВОР "ЗАПРАЦАВАЎ"

*Кароль Іарданіі Садам Хусейн упершыню наведаў з афіцыйным візітам Ізраіль.*

Хусейн сустрэўся з прэм'ер-міністрам Ізраіля Іцхакам Рабінам. На сустрэчы лідэры дзяржаў абмеркавалі нядаўна падпісаны мірны дагавор паміж сваімі краінамі.

### АФРЫКА "ЎЗБРОЙВАЕЦЦА" МІРАТВОРЧЫМІ СІЛАМІ

*У Францыі завяршылася сустрэча Франсуа Мітэрана з кіраўнікамі 34 афрыканскіх дзяржаў.*

На ёй было прынята рашэнне аб стварэнні ўласных міратворчых сіл па ўрэгуляванню канфліктаў на Афрыканскім кантыненце. Францыя паабяцала афрыканскім дзяржавам сваю падтрымку ў гэтай справе.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"



## БІЗНЕС-КЛАС

### КАНГРЭС ПА ПЫТАННЯХ ЭНЕРГІІ

У сталічным Міжнародным адукацыйным цэнтры прайшоў Міжнародны кангрэс з удзелам прадстаўнікоў навуковых колаў Расіі, Германіі, Швецыі, Украіны, Даніі і нашай рэспублікі пад назвай "Тыдзень энергетычнай палітыкі. Магчымасці нетрадыцыйных узнаўляемых вытокаў энергіі на Усходзе і Захадзе." Абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з сённяшнім днём энергетыкі і ейным уздзеяннем на экалагічную сітуацыю.

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.

### ПАВЯЛІЧАНЫ ПРАЦЭНТНЫЯ СТАЎКІ

На мінулым тыдні Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь разаслаў камерцыйным банкам тэлеграму, у якой, у прыватнасці, гаворыцца: "У мэтах стымулявання беражэнняў фізічных і юрыдычных асоб у банках і абароны іх ад інфляцыі Нацыянальны банк, кіруючыся артыкулам 20 Закона аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь, усталёўвае мінімальную працэнтную стаўку па тэрміновых рублёвых дэпазітах юрыдычных і фізічных асоб у памеры 18 працэнтаў у месяц і абавязвае банкі забяспечыць штомесячныя налічэнні працэнтаў па ўсіх тэрміновых дэпазітах з правам атрымання іх укладчыкамі".

### НАВУЧЫЦЦА ГАНДЛЯВАЦЬ

Вельмі патрэбная служба з'явілася не так даўно на Асіповіцкім заводзе аўтаагрэгатаў. Фірма выконвае ўсе мытныя працэдуры, звязаныя з адпраўкай гатовай прадукцыі прадпрыемства і атрыманнем самых розных матэрыялаў, паўфабрыкатаў з краін з блізкага і далёкага замежжа. І гэта не толькі Расія, Украіна, Прыбалтыка, а і Германія, Італія, Егіпет і г.д.

Фірма афармляе дакументацыю, займаецца заключэннем дагавораў, іншымі камерцыйнымі пытаннямі. Да таго ж праводзіць страхаванне грузаў, якія ідуць не толькі за межы Рэспублікі Беларусь, але і назад. І тут кліентаў нямала з розных арганізацый і прадпрыемстваў горада і раёна.

Іван СЦЯПУРА.

ПАС — палітыка-аналітычная служба

# Чаму дэмакратычная апазіцыя прайграла выбары

*Мінула сто дзён з дня прыняцця прысягі першым прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Ажыццёўлены многія праграмы, зроблены канкрэтныя крокі па выпраўленню палітычнага і эканамічнага жыцця краіны. У той жа час палітыкі зноў і зноў аглядваюцца на выбары першага прэзідэнта, аналізуюць расклад палітычных сіл на той час, поспехі адных і няўдачы другіх.*

*Як адну са спроб такога аналізу свайго, замежнага бачання той сітуацыі вашай увазе мы прапануем перадрук артыкула з часопіса "Голас часу", які выходзіць у Пондане.*

Калі вечарам 23 чэрвеня 1994 года я пазнаёміўся з вынікамі галасавання на выбарчым участку, дзе быў наглядальнікам ад БНФ, то вачам сваім не паверыў. У нас Пазьняк быў на другім месцы пасля Лукашэнкі, а стаўленік наменклатуры — Кебіч, як і камуніст Новікаў, ды іншыя кандыдаты, засталіся далёка ззаду, з вялікім адрывам ад Пазьняка па колькасці галасоў.

Пасля я даведаўся, што і па нашаму раёну ў цэлым вынік такі самы: за Лукашэнку — 42,5 працэнта, за Пазьняка — 23,7 працэнта, затое за Кебіча толькі 9,1 працэнта ад усёй колькасці прагаласаваўшых, за Шушкевіча — 8,6 працэнта, а за камуністычнага сакратара Новікава — толькі 2,1 працэнта. Такія вынікі мяне здзівілі, бо ўся прэса ды радыё прарочылі перамогу толькі Кебічу.

Але такія вынікі галасавання былі толькі па нашаму раёну. А вось па гораду Вілейка Пазьняк нават перамог: там ён атрымаў 31,6 працэнта галасоў, а Лукашэнка — толькі 31,3 працэнта, па гораду Маладзечна Пазьняк — 32,3 працэнта, Лукашэнка — 25,3 працэнта, Кебіч увогуле 4,1 працэнта галасоў, хаця ў цэлым па Маладзечанскаму раёну Пазьняк усё ж уступіў Лукашэнку. Але такія вынікі галасавання былі толькі па асобных гарадах і раёнах, а калі былі падведзены вынікі галасавання па ўсёй Беларусі, тады выявілася, што Пазьняк нават не на другім, а толькі на трэцім месцы. Ён па ўсёй Беларусі набраў толькі 12,8 працэнта галасоў, у той час, як кандыдат ад камуністычнай наменклатуры Кебіч — 17,3 працэнта, а Лукашэнка аж 44,8 працэнта галасоў. Праўда, калі б былы спікер парламента С.С.Шушкевіч не адабраў у Пазьняка амаль 10 працэнтаў, то на другім месцы быў бы Пазьняк, а не Кебіч, але гэта ўсё роўна не забяспечыла б перамогі Пазьняку ў другім туры выбараў, бо перавага Лукашэнкі была надта вялікая. У пятніцу, 24 чэрвеня, адразу пасля выбараў Пазьняк заявіў, што перамогу Лукашэнку забяспечыла "здрада" Шушкевіча.

Само слоўца "здрада" паказвае схільнасць лідэра апазіцыі да ацэнак былога, таталітарнага рэжыму, бо кожны мае права дзейнічаць па наказу свайго сумлення, сваіх меркаванняў. Але ж паводзіны былога спікера — дэмакрата С.С.Шушкевіча пад час абмеркавання пытання аб рэферэндуме сапраўды былі дзіўнымі. Як пісаў рэдактар газеты "Новая зямля" Анатоль Казловіч у нумары сваёй газеты за кастрычнік 1993 г.: "Шушкевіч мог бы кінуць убок за рэферэндум увесь свой моцны характар і ўсе свае спікерскія паўнамоцтвы, але не кінуў. Скарыўся парламенцкай большасці, якая метадам юрыдычнай казуістыкі Булахава адмяніла законнае патрабаванне народа. Чаму Шушкевіч зрабіў менавіта так? Адказ ведае толькі ён сам. Нам застаецца шкадаваць аб нявыкарыстаным шансе ды заўважаць: чаму?" (артыкул "Трохгаловы беларус скаціўся з горкі"). Карацей кажучы, спадар Шушкевіч меў магчымасць зрабіць так, што адбыўся б рэферэндум аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў парламента, які быў абраны яшчэ пры БССР, без кантролю грамадскіх сіл пры падліку галасоў, без альтэрнатывы іншых кандыдатаў там, дзе выбіраліся дэпутатамі сакратары абкамаў КПБ і дзеячы Цэнтральнага Камітэта КПБ.

Перавыбары парламента азначалі б і перавыбары парламентам урада, і тады спадару Шушкевічу не прыйшлося б звяртацца ў газеты з гнеўнымі словамі з нагоды закрыцця ўрадам Кебіча радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная".

Алег Трусаў, старшыня БСДГ, якая зрабіла Шушкевіча сваім кандыдатам на пасаду прэзідэнта, сказаў пра яго наступнае: "Гэта вопытны палітык, высокага міжнароднага класа (???-А.Б.), які зрабіў для Беларусі ўсё немагчымае, таму што ніякай рэальнай улады ў яго не было... Тым не менш, калі Шушкевіч быў кіраўніком ВС, была прынята дзяржаўная сімволіка (цікава, ці яна была б прынята, калі б наменклатура не была настрашана падзеямі ў Маскве, дзе Ельцын атрымаў перамогу над рускай наменклатурай, утварыўшай ГКЧП?). А вось камуністычны ўрад Кебіча тады, карыстаючыся страхам наменклатуры, зняты не быў! — (А.Б.), быў прыняты цэлы шэраг дэмакратычных законаў, якія даюць магчымасць пачынаць рыначныя рэформы. І самае галоўнае, што Шушкевіч умее прызнаваць свае памылкі ў адрозненне ад іншых палітыкаў і робіць з іх вывады". ("Свободные новости" № 12 за 10.06.94 г. "Шушкевіч зрабіў немагчымае"). Але Алег Трусаў не адказаў на пытанне карэспандэнта "С. навостей", якое гучала так: "А ці не здарыцца так, што ў сваю чаргу ад вас адмовіцца Шушкевіч, калі дапусціць, што ён будзе абраны прэзідэнтам, як рабіў гэта не раз раней (на хвалі БНФ стаў дэпутатам, уваходзіў у дэмакратычны клуб, гаварыў, што трэба забараніць кампартыю, а потым "прыкладаў руку", каб яе аднавіць і г.д.)".

Крытыкуючы Шушкевіча-палітыка, аўтар бясспрэчна паважае Шушкевіча як чалавека сумленнага, інтэлігентнага, які мог з вялікай карысцю і добрым іміджам прадстаўляць Рэспубліку Беларусь перад кіраўнікамі замежжа.

Але Шушкевіч сам сябе ізаляваў ад усіх палітычных рухаў і партый, застаўся адзінокім, а без падтрымкі мас народу — палітык нішто. Зрэшты, калі б Шушкевіч быў сапраўды вопытным палітыкам, Лукашэнка не адабраў бы ў яго магчымасцей быць сапраўдным барацьбітом з мафіяй. Бо Шушкевіч першым рабіў незнарок даклад аб карупцыі, але гэта было без душы, без эмоцый. А Лукашэнка з усім магчымым запалам пайшоў супраць казнакрадаў і выйграў не толькі ў барацьбе з Кебічам, але і прэзідэнцтва.

Але і лідэру БНФ, спадару Пазьняку, таксама не трэба было вылучаць сваю кандыдатуру на выбары прэзідэнта. Занадта вялікая была стаўка, каб рызыкаваць будучыняй Радзімы. Зянон Станіслававіч павінен быў улічваць тое, што супраць яго ўжо многа год наменклатура вядзе масіраваную прапаганду, і той, хто хадзіў па хатах, збіраючы подпісы за вылучэнне Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты, пераканаўся на сваёй шкуры, як папрацавала прапаганда былога ЦК КПБ і наменклатурная прэса. Як толькі людзі пачулі, што ты прыйшоў па іх подпісы, каб Пазьняк стаў кандыдатам у прэзідэнты, так і пачыналася гаворка на павышаных танах: гэта ж фашыст, былы паліцай, ён хоча ваяваць з Расіяй за Смаленшчыну і Браншчыну, а нам вайна не патрэбна, тым больш з Расіяю ці Літвою за Вільню! І падпісантаў амаль што выштурхоўвалі з хаты. Ведаў пра гэта Пазьняк? Ведаў, бо пра гэта пісалі разумныя людзі задоўга да выбараў, яшчэ ў 1993 годзе.

...Вёсачка з пяці жылых хат. Газету прывозіць веласіпедам цётка Гуля. У газеце пра Пазьняка. Цётка Гуля прачытала загаловак, кажа з нянавісцю: "У-у, фашыст гэны!", і... плача. Я ведаю, чаму яна плача. Сорак дзевяць гадоў назад на яе вачах фашысты павесілі бацьку і маці. Я чакаю, пакуль яна вытрэ слёзы і прыйдзе ў сябе. Пытаюся: "Чаму вы так Пазьняка ненавідзіце? Чым ён насаліў вам?" Цётка Гуля не можа сказаць, чаму і чым. Як толькі ўбачыла ў газеце яго імя — з гэтага моманту не ў сабе.

У Беларусі надзвычай удала праведзены унікальны прапагандысцкі вопыт, сродкі масавай інфармацыі імем Пазьняка замбіравалі значную частку насельніцтва. Псіхалагічна трапна была выкарыстана святая нянавісць беларусаў да нямецкіх захопнікаў і, галоўным чынам, да іх мясцовых прыхвасняў, якія карысталіся нацыянальнай сімволікай (бел-чырвона-белы сцяг, Пагоня). ... БНФ — пад тым жа сцягам, што і паліцаі. Гэтага было дастаткова, каб у народнай свядомасці БНФ і яго кіраўнік занялі месца ворага.

Беларуская журналістыка ўзяла на сябе вялікі грэх. Імем Пазьняка яна абалваньвала народ у канцы васьмідзесятых, абалваньвае і зараз, адсякаючы народ ад мінулага і будучага, засяроджваючы мазгі чалавека выключна на каўбаснай звіліне, быццам бы забранай у чалавека дэмакратамі, БНФ і, вядома, Пазьняком.

Я лічу, што палітык, калі ён не дылетант, не меў права рызыкаваць дасягнутымі пераменамі толькі дзеля таго, каб увайсці ў гісторыю Беларусі ў якасці першага прэзідэнта рэспублікі. Таму я лічу, што ні Пазьняк, ні Шушкевіч не мелі права вылучаць свае кандыдатуры на пасаду першага прэзідэнта краіны. Бо была рызыка ўсё страціць, і гэты прагноз спраўдзіўся. Разумныя палітыкі падтрымалі б цэнтрыста. Альбо вылучылі б дастаткова вядомую на Беларусі кандыдатуру, супраць якой вялася агітацыя ўсімі сродкамі масавай інфармацыі Кебіча. Чалавека прынцыповага, сумленнага, у якога сэрца баліць за Беларусь і будучыню яе народа. Так што палітыкі недыпламаты запрапанавалі б спадару Багданкевічу не пасаду прэм'ер-міністра ў магчымым урадзе Шушкевіча, а вылучылі б яго кандыдатам на пасаду першага прэзідэнта Беларусі. І ніякіх іншых кандыдатур ад дэмакратычнай апазіцыі! Тады вынік выбараў мог быць трохі іншы, хаця далёка не ўсе ведалі аб супраціўленні Багданкевіча спробам пазбаўлення Беларусі суверэнітэту, бо ведалі аб спробах барацьбы з карупцыяй Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. Тут шмат дапамагла прэса Кебіча, які меў надзею, што Лукашэнка пад уздзеяннем розных імперскіх сабораў "Белая Русь" і НДБ Гайдукевіча аддасць галасы сваіх выбаршчыкаў Кебічу. Але Лукашэнка аказаўся амбіцыёзным і самалюбівым чалавекам, які не любіць, каб яму загадвалі, што рабіць. І гэта дапамагло выратаваць Беларусь ад пана Кебіча, якога ў свой час не спрабаваў нават скінуць спікер Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч.

Спадар Шушкевіч вельмі дбаў аб "згодзе" з Кебічам, лічыў, што іх рознагалоссі ніхто не бачыць. А Аляксандр Рыгоравіч даў бой трухлявай структуры, створанай Кебічам, і выйграў усё.

Што чакае нашу Радзіму зараз, пасля выбараў прэзідэнта? Хочацца верыць, што наш першы прэзідэнт, сустракаючыся з кіраўнікамі сапраўды суверэнных краін, ацэніць вагу сапраўднай незалежнасці краіны і зразумее, што ў сваёй кватэры жыць лепш, чым у "общежитии", што лепш быць гаспадаром у сябе, чым наймітам ад суседа. Хочацца верыць у малады запал прэзідэнта. Хочацца мець надзею на маладыя і здаровыя амбіцыі прэзідэнта і яго "каманды", на іх самалюбства, не сумяшчальнае з паслуганствам.

Хочацца верыць... Хутка даведаемся, якая цана перадвыбарным абяцанням прэзідэнта, але хочацца верыць, што ён чалавек слова.

А апазіцыі трэба павучыцца хаця б у Расіі, да чаго прыводзяць амбіцыі кіраўнікоў рухаў і партый, якія не могуць аб'яднацца дзеля вышэйшай мэты.

Наперадзе выбары ў новы парламент. Гэта не тое, што выбіраць адзінага прэзідэнта на ўсю краіну, але з любых зараз трэба рабіць належныя вывады.

Аляксандр БАХАНЧЫК,
Нясвіжчына.
"Голас часу", Лондан.
(Друкуецца са скарачэннямі).

## ФЕСТЫВАЛІ



**"АРТ–СЕСІЯ"**

Так называўся Міжнародны фестываль моладзі, які праходзіў у Гомелі і сабраў больш чым 270 удзельнікаў з абласных цэнтраў, Украіны, Шатландыі, Італіі, Францыі. На канцэртных пляцоўках Гомельскага дзяржаўнага універсітэта парадавалі талентамі не толькі госці, што паказалі сваё песеннае і танцавальнае майстэрства, але і гаспадары. У рамках фестывалю былі арганізаваны сустрэчы маладых жывапісцаў, рэзчыкаў па дрэве, скульптараў, прайшла выстаўка французскага фотамастака Даніэля Масакрые, выступілі рок-музыканты.

Фестываль быў арганізаваны культурным цэнтрам ГДУ і абласным камітэтам па справах моладзі.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ.

## КУР'ЕР "ЧЗ"

### "INTERNET" выходзіць на сувязь

*З мінулага месяца студэнты Беларускай політэхнічнай акадэміі наладзілі з вучнямі вышэйшай школы з горада Ватога (Паўночная Караліна) "перапіску" праз спадарожнікавую сістэму "INTERNET".*

Спадарожнікавы клас акадэміі створаны супрацоўнікамі кафедры тэхнічнай фізікі і абсталяваны камп'ютэрнай тэхнікай з Беларусі, Нідэрландаў, Японіі і Карэі. З дапамогай спадарожнікавай сувязі амерыканскія вучні і беларускія студэнты пачалі абменьвацца звесткамі аб экалагічным становішчы ў сваіх краінах. Арганізатары запрашаюць далучыцца да свайго праекта як мага больш навучэнцаў школ і ВНУ, а ў будучым спадзяюцца наладзіць па спадарожнікавых каналах інфармацыйны абмен па самых розных пытаннях, якія цікавяць замежную і беларускую моладзь.

Наталля ВАЛАКІДА.

### "Прапіска" для лесапарку

*Яшчэ на адзін лесапарк у Мінску стала больш: новы зялёны масіў мае аднайменную назву з узводзімай тут станцыяй метро — "Ангарская".*

Дарэчы, гэта не першая такая падзея для сталіцы рэспублікі сёлета. Так, на вуліцы Нававіленскай з'явіўся сквер, а ў Сцяпянцы — лесапарк. Завершана добраўпарадкаванне берагоў Свіслачы паміж вуліцамі Аранскай і Дзянісаўскай, азелянілі тэрыторыю, якая прылягае да спарткомплексу па праспекце Машэрава. На чарзе — зялёная зона па вуліцы Рафіева. А вось заканчэнне добраўпарадкавання левабярэжнай часткі Камсамольскага возера і лесапарку "Мядзведжына" перанесена з-за сезоннасці работ на больш позні тэрмін.

### Падарожжа ў манастыр

*У далёкае і цікавае падарожжа — у Жыровіцкі манастыр — адправілася на два дні група дзяцей–інвалідаў з Мінска.*

Арганізавалі паездку беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля" і Беларуская асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам. Для роднага дома гэта сапраўдная падзея. Паколькі многія з іх перамяшчаюцца на калясках або з дапамогай мыліц. І, несумненна, падарожжа ў манастыр будзе для хворых дзяцей яркім сонцам у шэры восеньскі дзень.

БЕЛІНФАРМ.

## ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ

### Травяны вецер

Адразу пасля вайны, у самую нішчымніцу, кінула, каб не апухнуць з голаду, нашую вёску мая сваячка Палашка. Завербавалася, куды вочы глядзяць, і завёз яе аргнабор аж у Карэлію. На лесапавал. Там нажыла сям'ю і рабіла ў леспрамгасе ажно да самай пенсіі. І вось толькі цяпер – праз сорак пяць гадоў – прыехала, нарэшце, на бацькаўшчыну.

Прыехала ў сваю родную вёску – ніхто не пазнае. І яна нікога таксама. Ні аднаго знаёмага чалавека. Сабакі – і тыя нейкія чужыя. Азіраецца цётка па баках, хвалюецца, напружваецца нешта ўспомніць, горасна ўздыхае, і слёзы самацёкам плывуць па яе шырокім твары, капаюць на грудзі.

Калі падышоў да яе, госця стаяла каля лаўкі сярод сваіх сяброўак дзяцінства.

– Ох, жанкі мілыя! – пляскае яна ў ладкі. – Як у вас добра! І ўсе разам жывяце на роднай зямліцы. А я, сарока, вунь куды заляцела. Там у мяне дом, унукі, карова, але душу сюды, на бацькаўшчыну, цягне. Тут усё мне роднае. Вунь і неба без хмурынкі, і вецер наш, травяны, з поплава. Чуеце? Чабарком пахне. І слоўцы ад вас родныя чую.

Яна глыбока ўздыхае, ловіць ротам, усімі грудзьмі духмяны вецер і, не выціраючы слёз, кажа:

– Вось паеду назад. Цяпер, відаць, назусім. Больш мы не ўбачымся. Нічагусенькі мне не трэба. Толькі дайце набраць зямелькі. Хоць жменьку, хоць дробку. Я ж па ёй бегала босаю, калі маленькай была. А цяпер і бацька, і маці пад ёю ляжаць. Павязу з сабою гэтую жменьку – пагладжу яе, памацаю, панюхаю. І зажуруся, што на чужой зямлі памру.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

Сто артыкулаў

# ПАДЗВІНСКІЯ

□ Шаміль БЕКЦІНЕЕЎ, кандыдат гістарычных навук

На пэўным этапе эканамічнага і палітычнага развіцця дзяржавы ці якога-небудзь іншага дзяржаўнага ўтварэння ўзнікаюць умовы для сфарміравання мясцовай грашовай сістэмы. Дзяржавазнаўцы і эканамісты адзначаюць, што грашовая сістэма з'яўляецца адной з асноўных прыкмет суверэннасці (незалежнасці) дзяржавы. Прыкладам можа служыць чаканка манет у старажытнасці і сярэднія стагоддзі не толькі буйнымі дзяржавамі (Лідзія, Сірыя, Егіпет, Персія, Англія, Францыя і г.д.) і гарадамі (Карынф, Ольвія, Сіракузы — у антычныя часы; Трыр, Майнц, Магдэбург, Рыга — у сярэднія стагоддзі), але нават асобнымі плямёнамі (у антычны час — фракійцы, кельты і г.д.). У IX—X ст.ст. грашовае абарачэнне, часта з мясцовай чаканкай манет, пачало складвацца ў славянскіх народаў — палякаў (ляхаў), чэхаў (багемаў і маравах), сербаў, балгараў (цюркаў і славян), усходніх славян (продкі рускіх, украінцаў і беларусаў).

Ва ўсходніх славян, якія стварылі дзяржаву (Кіеўская Русь, Старажытная Русь), грашовае абарачэнне і грашовая сістэма сфарміраваліся ў IX—X ст.ст. Выкарыстоўваліся галоўным чынам прывазныя манеты — куфічныя дырхемы, візантыйскія міліярысіі і заходнееўрапейскія дэнарыі. Мясцовая манета, чаканеная ў канцы X — пачатку XI ст. у Кіеве (златнікі і срэбранікі) і Ноўгарадзе (срэбранікі), чаканілася ў нязначнай колькасці і мела ў асноўным дэкларатыўны характар, г.зн., яна павінна была паказаць існаванне моцнай, эканамічна развітой дзяржавы. Пры недахопе прывазных манет спрабавалі рабіць копіі прывычных грашовых знакаў — куфічныя дырхемы шляхам адліву іх у каменных формачках, і так званыя "манетападобныя пласцінкі", якія вырэзваліся з срэбраных стужак (пласцін) і мелі памер і вагу заходнееўрапейскіх дэнарыяў. З пачаткам палітычнай і эканамічнай раздробленасці старажытнарускай дзяржавы на асобныя княствы і землі пачалі складвацца мясцовыя ці рэгіянальныя грашова-вагавыя сістэмы — паўночная, ці наўгародская, і паўднёвая, або кіеўская (з канца X— пачатку XI ст.), нізоўская (з XI ст.), смаленская (у 20-30-х гадах XIII ст.).

На тэрыторыі Беларусі такая магчымасць паявілася ў 2-й палове XIII ст., калі асобна выдзеліліся два найбольш развітыя ў эканамічных адносінах цэнтры — Полацк і Віцебск. Гэта была полацка-віцебская грашова-вагавая сістэма. Яна з'явілася не на пустым месцы, а мела сваіх папярэднікаў — агульнарускую (IX—X ст.ст.), наўгародскія розных варыянтаў (канец XIII ст.) і смаленскую (20—80 гады XIII ст.) Апошняя распаўсюджвалася да сярэдзіны XIII ст. на Віцебскае і Полацкае княствы, якія далей мы будзем коратка называць Віцебскам і Полацкам. Паколькі насельніцтва гэтага рэгіёна выкарыстоўвала вышэйназваныя грашова-вагавыя сістэмы або знаёмілася з суседнімі ў час гандлю ў Ноўгарадзе, Пскове, Тэўтонскім і Лівонскім ордэнах, то і назвы грашовых адзінак часта прымяняліся практычна аднолькава з усходне-рускімі і паўднёва-рускімі — грыўна, нагата, рубель, даўгея (доўгая) і г.д. З развіццём і абагачэннем грашова-вагавай сістэмы паявіліся новыя назвы, уласцівыя толькі Полацка-Віцебскаму рэгіёну, — ізрой, грош і завушня. Наша грашовая сістэма пачала фарміравацца ў Віцебску яшчэ да яго фармальнага ўваходжання ў састаў Вялікага княства Літоўскага (далей ВКЛ) у 1345 г., а найвышэйшы росквіт яе прыпадае на 30-50-я гады XIV ст. Раннія этапы функцыяніравання сістэмы і арыгінальныя назвы яе адзінак (наміналу) даюць магчымасць сцвярджаць, што яна з'яўлялася самастойнай і была папярэдніцай агульнадзяржаўнай грашовай сістэмы ВКЛ.

Полацка-віцебская грашова-вагавая сістэма існавала з 60-х гадоў XIII ст. да сярэдзіны 80-х гадоў XIV ст. І ў сваім развіцці прайшла тры этапы. На першым этапе (60-я гг. XIII ст. -1298/ пачатак XIV ст.) з'явіліся дзве аснаватворныя грашовыя адзінкі — нагата вагой 1,8 г. і ізрой тэарэтычнай вагой у 108 г. і наміналам у 60 нагат. Гэтыя грашовыя адзінкі былі выяўлены па дзвюх крыніцах: "нагата" па гірцы-разнавазе вагой у 10,8 г, знойдзенай пры археалагічных раскопках у Друцку і датуемай 2-й палавінай XIII ст., а "ізрой" — па віцебскай грамаце 1298 г. Гісторыкі і эканамісты, якія вывучаюць грашовае абарачэнне эпохі сярэдневякоўя, устанавілі, што ў старажытнасці гандляры і мянялы вельмі часта каштоўнасць (кошт) плацежных сродкаў вызначалі пры дапамозе манетных ці "аптэкарскіх" вагаў і гірак. Гэта было звязана з тым, што манеты мелі няўстойлівую вагу (напрыклад, у скарбах вага дэнарыяў вагалася ад 0,9 да 1,5 г), часта выкарыстоўвалі вагавое срэбра (злíткі, цэлыя і абломкі срэбных упрыгажэнняў). Менавіта гіркі і дапамагалі вылічваць дробныя сумы ў рознічным гандлі. Для гэтага вагу металу дзялілі на колькасць значкоў (вочкі, кропкі, крыжыкі, рысачкі і да т.п.), адлюстраваных на разнавазе, і вызначалі, колькі грашовых адзінак у срэбным злітку ці яго фрагменце. Друцкая гірка імела 6 вочак (ямак ці кропак) і адпаведна з гэтым вагавую адзінку ў 1,8 г. (10,8 г.: 6). Вывучэнне адначасовых грашовых сістэм, у прыватнасці, наўгародскай XIII стагоддзя, дапамагло адзначыць, што 1,8 г. важыла мясцовая віцебска-друцкая нагата, больш лёгкая, чым наўгародская (1,87 г). Гэта меркаванне пацвердзілася пры даследаванні асаблівасцей мясцовай грашовай сістэмы ў 2-й чвэрці XIV ст. Другая грашовая адзінка была выяўлена паводле "Скаргі Рыжскага магістра князю віцебскаму Міхаілу Канстанцінавічу на неаднаразовыя крыўды і прыгнёт" (каля 1298 г.). У скарзе гаварылася, што брат віцебскага князя хацеў купіць у нямецкага купца Герлаха каня за 10 ізрояў. Пецярбургская даследчыца М.П.Сотнікава, якая вывучала разанскі скарб літоўскіх зліткаў з Дзяржаўнага Эрмітажа, выявіла на адным са зліткаў надрапанае слова "Изрои". Гэта дало ёй магчымасць выказаць думку, што ізрої — гэта літоўскія злíткі з умяцінамі на спінцы і рэальнай вагой 100—105 г. На выкарыстанне літоўскіх зліткаў (грыўняў) указваюць друцкія гіркі вагой 10,8 г і 104,52 г і віцебская — 36,02 г. Агульная грашовая адзінка ў іх — 1,8 г, што дало магчымасць вызначыць "намінал" у 60 нагат і яе тэарэтычную вагу ў 108,0 г (1,8 г х 60). У беларускіх і літоўскіх скарбах неаднаразова знаходзіліся злíткі вагой у 108,11—108,79 г.

Упамінанне ў "Скарзе Рыжскага магістрата..." ізроя, відавочна, звязана з тым, што ў Ноўгарадзе ў канцы XIII ст. паявілася новая грашовая адзінка — рубель. Маскоўскі нумізмат акадэмік В.Л. Янін вызначыў намінал рубля ў 105 нагат (па 1,87) і адпаведна яго тэарэтычную вагу ў 196,2 г (1,87 г х 105). Беларускі нумізмат В.Н.Рабцэвіч лічыць, што найбольш ранняе ўпамінанне рубля разам з парыжскімі грошамі ёсць у акце аб штрафе князя Альгерда 1337 г. Пры гэтым ён зыходзіць з таго, што рубель на тэрыторыі Беларусі з'явіўся ў 2-й чвэрці XIV ст. і што гэта маглі быць толькі наўгародскі ці літоўскі рубель-злітак. Але гэта зусім няправільна. Паводле летапісаў, літоўскі рубель упершыню быў упамянуты ў 1399 г. Ёсць дзве пісьмовыя крыніцы, якія ўказваюць, што ўжо ў самым пачатку XIV ст. выкарыстоўваўся нейкі свой, мясцовы рубель, які адпавядаў 50 пражскім грошам. Значыць, гэта грашовая адзінка ўзнікла дзесьці ў канцы XIII ст., г.зн. амаль адначасова з наўгародскім рублём. Паколькі Полацк і Віцебск мелі даволі цесныя эканамічныя сувязі з Ноўгарадам, то існавала меркаванне, што намінал віцебска-друцкага рубля быў такі ж, як у наўгародскага, — 105 нагат і важыў 189,0 (1,8 г х 105). На выкарыстанне такога рубля ўказвае віцебская гірка вагой у 94,6 г, што складала вагу паўрубля (= 1/2 рубля).

Матэрыялы даследавання паказалі, што да 1298 г. у Віцебска-друцкім рэгіёне сфарміравалася наступная грашовая сістэма: ізрой (літоўская грыўня) = 30 нагатам (па 1,8 г) = 108,0 г; рубель = 105 нагатам (па 1,8 г) = 189,0 г.

Другі этап полацка-віцебскай грашова-вагавой сістэмы (пачатак XIV ст. — 1325/1327 гг.) даволі цесна звязаны з паступленнем у ВКЛ пражскіх грошай ранніх тыпаў. Гэту манету пачалі чаканіць у 1300 г. пры чэшскім каралю Вацлаве II (1278—1305). Тэарэтычна яна павінна была важыць 3,9 г, а практычна атрымалася каля 3,78 г. Згодна з метралагічнымі звесткамі, яна падыходзіла толькі да віцебска-друцкага рубля. В.Н.Рабцэвіч, не прааналізаваўшы наяўныя матэрыялы, лічыць, што ўжо з пачатку XIV ст. рубель змяшчаў 60 грошаў, спасылаючыся на выкарыстанне ў Чэхіі грыўні, з якой чаканілі 60 манет. Але гэта грыўня важыла 233,9 г, што ніяк не падыходзіць да вагі рэгіянальнага рубля і нават больш цяжкага наўгародскага (196,2 г). В.Н.Рабцэвіч зусім не ўлічвае, што пры чаканцы пражскіх грошай выкарыстоўвалі некалькі розных вагавых грыўняў — пражскую або цяжкую (= 64 гро-

### ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

